чыніцца да практычных заняцьцяў адтрымліваюць адно тыя асобы, прынятыя да у-ту, каторыя ўнясуць устаноўленую Радаю плату, калі ад гэтае платы ня будуць аслабонены па важным прычынам.

§ 38. Поўны курс унівэрсітэцкай навукі акрасьляецца 4-мя гадамі (8-ю сэмэстрамі) на факультатах гісторыка-філёлёгічным, фізіка-матэматычным, юрыдычным і багаслоўскім, і 5-ю гадамі (10-ю сэмэстрамі) на медыцынскім факультэце. Лік гадоў (сэмэстраў) акрасьляецца ўнесенай платай і вытрыманнем акрэсьленаго факультэтамі мінімуму экзаменаў або залічэнняў.

§ 39. Дзеля пераходу на старэйшыя курсы вымагаецца адтрыманне адметак па пэўным прадметам, акрэсьленым адпаведнымі факультэтамі, бяз знання каторых немагчыма з усьпехам слухаць далейшыя курсы і спрычыняцца да практычных заняцьцяў.

§ 40. Дзеля адтрымання дыплёмаў аб сталым завяршэнні адпаведнаго факультэту, а так сама вучоных ступеняў патрэбна вытрымаць экзамен па прадметам, каторыя будуць прызнаныя для гэтаго патрэбнымі адпаведнымі факультэтамі, і напісаць палажаныя творы, а на натуральным і медыцынскім факультэтах — прадставіць патрэбныя прэпараты.

**Вучэбна-падсобныя установы.**

§ 41. Да вучэбна-падсобных установаў у-та прыналежаць: 1) Унівэрсітэцкая бібліотэка; 2) фізычны габінэт; 3) хэмічная лабораторыя; 4) мінералёгічны і геогностычны габінэты; 5) палеонталёгічны габінэт; 6) ботанічны габінэт; 7) зоолёгічны габінэт; 8) зоогамічны габінэт; 9) фізіялёгічны і гісталёгічны габінэты; 10) габінэт і лабораторыя патолёгічнай анатоміі; 11) габінэт і лабораторыя фізіялёгічнай анатоміі; 12) габінэт акушэрства, жаночых і дзіцячых хваробаў; 13) габінэт хірургічны і офтальмалёгічны; 14) габінэт з фармакалёгічнаю і фармацэўтычнай лабораторыей; 15) астранамічная і метэоралёгічная абсэрваторыя; 16) габінэт гіпсавых фігураў і статуяў; 17) механічны габінэт; 18) анатомічны інстытут; 19) клінікі; 20) ботанічны сад.

**Штаты.**

Штаты павінны саўпадаць з адпаведнымі асігнаваннямі іншых унівэрсітэтаў расійскіх і украінскіх.

*Спраўка.* Поўныя каштарысы у-таў у 1916 г..

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Варшаўскі | — | — | 402,280 рб. | . 106,366 рб. | 551,593—94 |
| Казанскі | — | — | 673,850 „ | . 146,482 „ | 774,169— „ |
| Кіеўскі | — | — | 460,190 „ | . 137,798 „ | 672,348— „ |
| Маскоўскі | — | — | 732,935 „ | . 343,376 „ | 1.487,741—08 |
| Новарасійскі | — | — | 466,090 „ | . 142,482 „ | 824,332— „ |
| Харкаўскі | — | — | 458,530 „ | . 142,953 „ | 802,411—35 |
| Юрьеўскі | — | — | 390,800 „ | . 151,427 „ | 651,714—40 |
| | | | асобіст. склад. | вучэбн. часьць. | разам. |

Проэктуемыя ў 1918 г. аклады:

| Назовы цасадаў. | Лік асоб. | Аклад аднаму. | Усім разам. | Кватэра. | У в а г а. |
|---|---|---|---|---|---|
| Рэктар | 1 | 5.000 рб. (дабавачн.). | 5.000 рб. | натурай | Багаслоўскі—6. Гіст.-філел.—10. Фіз.-матэмт.—10 Юрыдычн.—10 Медыцын.—12 |
| Орд. профэс. | 47 | 12.000 „ | 564.000 „ | | Багаслоўск.—5 Гіст.-філел.—5 Юрыдычн.—3 Медыцын.—6 Фіз.-матэм.—5 |
| Экстраард. прф. | 25 | 10.000 „ | 259.000 „ | | Багаслоўск.—2 Гіст.-філел.—3 Фіз.-матэм.—3 Юрыдычн.—2 Медыцын.—6 |
| Доцэнты | 16 | 8.000 „ | 128.000 „ | | |
| Лектары | 6 | 6.000 „ | 36.000 „ | | |
| Дэканы | 5 | 3.000 „ | 15.000 „ | | |
| Сэкрат. факульт. | 5 | 1.500 „ | 7.500 „ | | |
| Прорэктар | 1 | 3.000 „ (дабавачн.). | 3.000 „ | натурай | |

Асістэнты, лаборанты і іншыя служачыя адтрымліваюць аклады так сама стасоўна да штатаў расійскіх і украінскіх у-таў.

Проф. **Е. Карскі.**

---

**Ад Рэдакцыі.** Вышэйпаданы проэкт статута Беларускаго унівэрсітэта ня можа здаволіць культурна-нацыянальных патрэб Беларусі. Яго праграма па гіст.-фільольогічнаму факультэту хутчэй велікаруская, але не беларуская,—так мала там мейсца беларушчыне.

---

**М. Грамыка.**

# Зьмітрок з „Высокай Буды“.

*Драма ў 4-ох дзеях.*

(Глядз. № 34).

## Дзея 3-яя.

За вёскай.

З Ь Я В А 1-ая.

Галіна. Прыгожа кругом! Гляньце, якія кветкі: празе-сак, чыстацел, чарнабыль, вось лебяда... Колькі траў па нашых лугавінах, якія зялёныя, сачыстыя!. Як гэта усё зраззілося з душой у адно жыцце! А бярозка! Якое дзераўцо так падобна да нашаго краю і адзежай і ціхім поглядам!

Зьмітрок. Бярозка выказуе журасьць і радасьць істнення. З якой пакорай стаяць яны на магілках, з якой прыветнасьцю глядзяць па-уз нашых шляхах на усякаго, хто ідзе-брыдзе.

Галіна. Можа гэта тое, што кажуць: і дым ад родных хат нам салодкі і мілы. але не, ці-ж гэта дым? Я доўга жыла па моры, і горы бачыла вышэй хмар... Да вы ведаеце, як прырода у чужых краёх багата, а усё-ж яно, як чужое, і сэрцо да яго не кладзецца.

Зьмітрок. Я гэта зьведаў. Прыйдзеш, бывала, да мора,

садзеш на каменю, услухаешся... і здаецца: наша хвоя шуміць сваімі галінамі. Горы я любіу. Як велiканы, стаяць яны і нешта думаюць, думаюць а у падножжі сьцелецца жыцьцё.

Галіна. Якая у вас душа!

Зьмітрок. Не хваліце, пахвала псуе людзей. Што пра маю душу, дык яна у мяне бывае горкая, як палын. Можа у Аксінні душа куды лепшая, бо яна, я ведаю, можа даравацьь, а я не магу.

Галіна. Каму даравацьь?

Зьмітрок. Таму, хто-б забрау у мяне мае золато, мае каменні самацьветныя (абнімае, цалуе Галіну).

Галіна. Дзьмітры, якая радасьць!

Зьмітрок. А можа грэх? Грэх, бо пры гэтым ня усе радуюцца... Але ня дуж сіліцца з ласкай, з гэтай блізасьцю ад цябе... так лёгка думаць з табой... Нават чорныя хмары душэуныя робяцца лёгкімі, як птушкі... Ластаука мая вясновая!

Галіна. Я бачыла так у ва сьне... і во,—яу! Так глыбока з вамі... з табой, і проста, як з прыродай. Мне здаецца, ты з найлепшых кветак народу нашаго, як казалі пра яго лепшыя кніжкі, лепшыя нашыя людзі... Мала такіх, Дзьмітры, мала! Так сумна і горка на душы, калі туманецца ідэалы! Але вось, сустрэуся ты... І адной зямлі мы з табой, тое-ж аржонне узгадавало нас, прауда?

(Відаць Цыганка з-за дзерава. Паглядае, а пасьля бяжыць).

Зьмітрок. Так, ластаука мая, так! Вялікі жаль толькі, што не дано нам споуна сьпіць з крыніцы шчырай долі... не дано! Але, ніхай будуць гэтыя устрэчы, ласкі дзеля таго, каб душа, адкрыушыся адна перад другой, болей зрабіла для людзей.

Галіна. Хіба-ж твая душа не працуець для іх? Я бачыла, як сьлязіліся вочы селян, калі ты чытау «Адвечную песьню». Маладыя сьціпшыліся, а старыя глядзелі на цябе так глыбока!

Зьмітрок. Ня трэба хваліць, ня трэба хваліць! Што-ж бы я ім мог даць, каб не адкрытыя душы? Хвала Богу, што прыймаюць добрыя словы. Ды ці-ж гэта мае словы? Гэта словы вечныя, спакон вякоу знаходжаныя тымі, што шукалі прауды паміж нядолі. Многа робіць у гэтым і твой бацька. Які найдасканальны, душэуны чалавек! Каб такіх болей было між намі! На які шырокі шлях мажліва было-б вывесьці наш народ! Якая улада над сабой! І гэты чалавек рашыуся сыну дзеля народу! Ні слова папроку ня чуу ад яго! Пойдзем да яго, Галіна!

Галіна. Пойдзем «рыцар мой», зараз. (цалуе). Во так, пойдзем пад нашымі бярозкамі! (Чуваць пастуха).

### ЗЬЯВА 2-ая.

Аксіння. (Ціха галосе). Божа-ж мой, Божа-ж мой! За вошта мне нядоля гэта, за вошта?! (садзіцца).

### ЗЬЯВА 3-яя.

Панас. Ціха, дачушка! Асушы вочкі свае. Я бачу усё. Што рабіць? Адзін Бог без граха. Можа яна і пройдзець, гэтая атрута. Зірні у люстро,—наглядзішся, заглянь у сумленне набодзішся.

Аксіння. Ой, дзеду, цяжка нешта на сэрцы, цяжка! Дыхання німа!

Панас. Ціха, ціха!.. Я табе паспяваю:

Вось на ніве сонцо за гару заходзіць,
У ціхую ночку сьвету прадвяшчае,
А месячык бледны з ваблок выглядае.
Салавейка у лесі песенькі разводзіць.
Гаспадары з поля ужо брыдуць да хаты,
Гонюць прад сабою волікау рагатах.
Пастухі скацінку у сяло зганяюць,
Дзеукі ёй вянкамі рогі прыбіраюць.
Ціха, доня, ціха!

### ЗЬЯВА 4-ая.

Цыганок. Стары ужо уцяшае, галосіш! Ці прауду я табе казау! Спаткала свайго, ды не аднаго!

Панас. Кінь чалавеча! Ці табе мала! Бачыш, як убіваецца?

Цыганок. А усё за вашу сьвятасьць,—такіх як ты ды Зьмітрок!

Аксіння. На вошта ты мяне падаслау, Цыганок? Як злы дух нашаптау мне і рашыу пакою!

Цыганок. Дык выходзіць, я вінават!

Панас. Пойдзем, Аксіння, ужо месячык узышоу, пойдзем. (адходзяць).

Цыганок. Не маркоцься! Калі што спатрэбіцца, кажы! Усё зраблю, што загадаеш.

Аксіння. Як ты сьмееш слацца так перад маёй душой! Ты толькі цёмная цень ад таго чалавека. Ня люб ты мне, і ніхто мне ня люб у сьвеці! Зьмітрок, Зьмітрочак мой! (выбягае).

Панас. (Брыдзе за ей). Памажы Божа гэтай кволай душы! Яна, як тая былінка на прыгорачку: і ціхенькі вецярок калыша яе і гне да зямлі!

### ЗЬЯВА 5-ая.

Саука. (пяе): «Цэцярук, цецярук, хадзі парыцца! Не пайду, не пайду, дзеукі сварацца». А, здароу! Што ты тут робіш, чарнявы?

Цыганок. Зрабіу-бы, каб памаглі, а можа яшчэ сам зраблю!

Саука. Куды гэта ты зіркаеш?

Цыганок. Вось туды, бачыш топалі высачэнныя каля садоу панскіх? Так-бы, здаецца, іх з каранем выкарчавау!

Саука. Чаму ты такі лядашчы? Ці табе гарэлкі не хватае, ці жонка табе не дагаджае?

Цыганок. Чорта з два мне з жонкі ды з гарэлкі твае! Не гарэлка—дзярэлка твая душу дзярэць маю!

Саука. А што табе душу дзярэць, цікава, далі-Бог?

Цыганок. Да гэты во глум! Глумяцца над вамі, мужыкамі, а вы толькі буркалы пяліце. Упямьце сабе у галаву, што наш час прыйшоу! Праспіш, дык і заграэнеш у балоце век мужык-мужыком! Слухайце толькі Зьмітрака ды Панаса. Аднаму ужо у дамавіну пара, другі у сьвятыя дабіваецца, а к дзеукам ласьціцца,—дарма, што жанаты!

Саука. Хто, Зьмітрок?

Цыганок. А ня ужо-ж ты!

Саука. (Сьмяецца). Вот дзело! Ну, пойдзем у вёску, ужо цёмна, а з табой нешта на дарозе таго, як яго...

Цыганок. У мяне ёсьць у кішэні шклянанчка такога прасьвятлення, што адразу, як сонцо засьвеце.

Саука. Дапрауды? Пакажы!

Цыганок. Сядай.

Саука. Скуль ты яе дастау? Ты-ж, кажуць, няпьюшчы.

Цыганок. Дзеля друга чаму не пастарацца. Раскладзём цяпло, пагутарым крыху...

Саука. Далі-Бог, брат, вот толькі калі гэтай атруты хваціш, дык чалавекам здаешся! А то, якое наша жыцьцё?

Цыганок. А мусіць быць лепшым. І працы ня трэба было-б такой крывавай, і грошы былі-б у кішэні, і дзеукі кахалі-б.

Саука. Мікіта, як цьвярозы быу, дык у важусе хадзіу, а як стау гарэлку піць, мусіць абарванцам жыць.

Цыганок. Асьмель сабе, ня будзеш абарванцам. Кожны

а нас ня горш напа. Во гэтае вогнішчо маленькае толькі рукі грэе, а каб захацеу, мы-б з табой такое разлажылі, што грэліся-бы і грэліся-бы да веку!

Саука. Да веку кажаш? Дык-бы мы папякліся на ём!

ЗЬЯВА 6-ая.

Зьмітрок. Дзе гэта ты, Цыганок, чорная твая душа, такое цяпло зьбіраешся скласьці? Вогнішчо раскладу, а душу чалавеччу заліваеш добрай вадзіцай!

Цыганок. Да што там! Адкуль гэта вы зьявіліся?

Зьмітрок. Я адтуль, куды ты здужаеш прыйсьці толькі, як злодзей, бо ненавістнік ты усяго, што выжэй тваіх помыслау! А куды іду, ці ты за мной пойдзеш, Цыганок?

Цыганок. Ведама: сьвяты турэцкі! Хадзі, Саука, кінь яго, як ён кінуу сваю жонку!

Зьмітрок. Ня важся памінаць аб ёй, груган! Вон ад мяне, не карчуй маю душу, бо натыркнешся на злобу!

(Саука і Цыганок скрываюцца. Зьмітрок садзіцца каля вагню, схіліушы галаву).

Заслона.

## Дзея 4-ая.

ЗЬЯВА 1-ая.

Аксіння. (пяе):
На лужочку, бліз лясочку,
Косы урад ідуць;
Траука хіліцца пад імі,
Касары пяюць.
Птушка з лугу вылятае,
Журыцца, дрыжыць,
Песьня птушачку пужае,
Сэрцайко баліць.

Сонейко заходзе. Скора Зьмітрок прыйдзе, што небудзь скажа такое ласкавае, дарма што працуе каля сваіх шнуроу, бышцам і ня кідау вёсву.

ЗЬЯВА 2-ая.

Цыганок. Сумуеш усё? Эх, жанчына, не спадабала мяне, гордая! А дарма: усё адна-адной! А твой, пэуне, зноу дзе-небудзь каля фальварку?

Аксіння. (Ціха). Чаго ты такі крыудзівы? Далося табе чужое сэрцо! Ці-ж ён у гульбе усё? Ці-ж ён не арэ, не скародзе?

Цыганок. Скародзе твой Зьмітрок, а толькі ня тое ралле. Я зноу спаткау яго спазаранку ды зноу з той недатыкнёнай. Да ты не хапайся за сэрцо, а лепш памяркуем, як гэта дзело парашыць.

Аксіння. Што табе трэба ад мяне, цёмная сіла?

Цыганок. Цёмная сіла? А хто табе нядолю дае, як не твая прасьветлая сіла? Каб ты мне хоць славечко кінула, я-б гэтай ноччу пайшоу туды адзін, ці я не здужаю сернікамі чыркануць, ці цяпло раздуць?

Аксіння. Што ты кажаш?

Цыганок. А тое, што чуеш! Ці любіш-жа ты панну Кажанеускую?

Аксіння. Ня муч, адступіся!

Цыганок. Адступлюся, каб пайсьці спаліць гнязло Галіны!

Аксіння. Спаліць гняздо Галіны? Як жа ты... Што ты кажаш?

Цыганок. Ня хочаш?

Аксіння. Адступіся! Во, і Зьмітрок ідзе! (уваходзіць).

Цыганок. Кахайся, баба, кахайся, а толькі ноч будзе сьветлая ўнні!

ЗЬЯВА 3-яя.

Зьмітрок. Іду гэта я ад гумна, аж заяц праз дарогу да у аусы — скок! Маладзенькі такі, сівенькі!

Аксіння. А ты-б яго за вушкі ды у хату: мы-б яго і гадавалі. Ай, Зьмітрочку, то-ж ня варта, калі заяц дарогу перабяжыць, не к дабру!

Зьмітрок. Каб толькі людзі не перабягалі, бо на іх заужды спатыкнешся... Сядзем на прызбачку, нешта не ахвота ісьці у хату, душна там, а тут не-не, ды і набяжыць вецярок з лугоу. Душна, ноч будзе гразовая.

Аксіння. А дожджыку трэба, Зьмітрочку?

Зьмітрок. Трэба дажджу. Радасна бачыць, як усё рунее с-пад тваёй рукі! Кожная спрацаваная жменя у полі, па Божжай волі, усходзіць збожжам. Каб і тут, на хатах, так было,—усхадзіло збожжо!

Аксіння. Скора і з сярпом пойдуць бабы, і я з імі. Дужа люблю, Зьмітрочку, зажынкі. Як пойдуць з поля са снапом ды з песьнямі.

Зьмітрок. А ты першая засьпявала у мяне! Ніхто так не зальецца па-над жніуём, як ты.

Аксіння. А я пры табе сароміцца буду.

Зьмітрок. Во як! Ну, з табой пасьпявае Галіна. Ці ведаеш, Аксюта, дарма, што паненка, а якая у яе увага да народа, да яго жыцця!

Аксіння. Ты з ёй гаворыш, што раз!

Зьмітрок. Ні то што, а як патрэбна бывае сустрэцье, каб падзяліцца думкамі, каб парадаваць друг друга, як лепш зладжыць жыцьцё на сяле.

Аксіння. Разумею, Зьмітрочку, разумею. Ці-ж я магу стаць з ёй уровень! Але-ж, калі ты не са мной, так нешта брыдка, і сум бярэць і лукавый нешта шэпча...

Зьмітрок. Лукавый... А ты адгані яго. Што гэта? Маланка?

Аксіння. Не, гэта не маланка.

Зьмітрок. А што?

Аксіння. Во, зноу бліснула на небе у том баку...

Зьмітрок. Стой...

Аксіння. Зьмітрочку...

ЗЬЯВА 4-ая.

Саука. Гарыць панскі двор! Усё Зарэччо кінулося туды!

Зьмітрок. Зладзеі! У каго паднялася рука! (парываецца).

Аксіння. Ня йдзі, родненькі, забьюць цябе!

Зьмітрок. Хай забьюць! Ці магу я глядзець тут, калі тамака палюць людзей! Стары адзін з Галіной! Як яна будзе з яе душой!

Аксіння. З яе душой!

Зьмітрок. (ня слухае). Яна пытала у мяне, ці прыйду, калі страсецца беда. І я дау ёй маё слово—прыду!

Аксіння. Зьмітрочку, як палае сэрцо у мяне, душна!

Зьмітрок. Сэрцо уцішыцца, з, бач, якія языкі агнявыя! (убегае).

Аксіння. Зьмітрочку! Пабег ад мяне! (Бяжыць у другі бок). Кінуу, кінуу!

ЗЬЯВА 5-ая.

Саука. Во дзело, дык дзело.

Панас. Хто запаліу?

Саука. А ці хто яго ведае! Пэуне, Цыганок.

Панас. Гэты чалавек! І народ пабег за ім, ці тушыць, ці рабаваць. А дзе Зьмітрок?

Саука. Толькі што у груњь кінууся, у той бок, а Аксіння у другі.

Панас. Куды пабегла Аксіння?

Саука. Во сюды, нешта к рэчцэ.

Панас. Чаму-ж ты ня кінууся за ёй, чалавеча! Стаіш,

як пень пры дарозе, або тыкаешся, як сьляпое пічаня, калі упьешся! (уходзіць шпарка).

Саука. Далі-Бог, дзядзька Панас, ня піу сёньні нічагусенькі! Не даець веры, што вы скажаце!

ЗЬЯВА 6-ая.

**Народ.**

Адзін. Глянь, во сыпанулі іскры!

Другі. Згарыць усё!

Трэці. Толькі коміны застануцца сярод попелу.

Чацьверты. Яно яшчэ доуга будзе тлець, бярвенне усякае, трухлявае. Бач, быццам тухне. Во зноу занялося!

Баба. Пайду барджэй, дужа цікава, як гарыць панскі двор.

Другая баба. І я з табой, Марынка. Бяжым у грунь, а то зараз патухне, не пабачым нічога.

Першы. А, трасца вам, трэба бачыць! Сядзіце пры хатах.

Другі. Усё сяло там, пойдзем і мы.

Трэці. Пасабляць? А ці ёсьць-жа там вада, каб затушыць?

Чацьвёрты. Дурны! Дык-жа ёсьць дабро у скрынях, трэба яго ратаваць! (сьмяюцца, уходзяць)

ЗЬЯВА 7-ая.

**Гоман, шум.**

Зьмітрок. Што зрабілася, дзе Аксіння? Чаго гукнулі мяне? Змарыуся! Тушыць цяжка, паліць куды лягчэй. Адзін чалавек можа спаліць цэлы горад, а каб зьберагчы адну хату, трэба во якая грамада! Дзякую вам, браты, папрацавалі і залілі крыху... Кніжак жаль. Але больш засталося, хваліць Богу... І як гэта чалавечча рука падымаецца нішчыць труды, працу колькіх пакаленняу! Дабро было-б, муры! Дык Бог з імі! Муры ня штука змураваць зноу шпарка. А ці-ж вывядзеш талакой тое, што прадумана у помыслах, прахворана душой! Кнігі!..

Адзін. Гэта Цыганкова работа.

Другі. Няужо-ж! Каб яго толькі знайсьці. Уцёк злодзей!

Зьмітрок. Дзе Аксіння? (у акно). Аксіння! Дзе ты, родная мая, захавалася? Можа вячэрань гатуеш? Я ужо вярнууся, бач, які спрацаваны. Жывой вадой лілі на галауні, ад самай рэчкі цягалі, зараз зноу пойдзем.

ЗЬЯВА 8-ая.

**Уносяць Аксінню.**

Зьмітрок. А-а! Што гэта? Што, каго нясуць?

Першы. Твая Аксіння.

Другі. Ледзьве выцяглі,—ды ужо спазьніліся. Каб хто адразу пабег.

Панас. Я пабег, але якія мае ногі!

Зьмітрок. Ня ведаю, што кажаце вы тут! Пытаю, каго вы прынесьлі? Можа гэта тая здань цудовая з ракі? Пусьціце мяне! Не, яна, Аксіння! Вочачкі яе, косачкі! Аксіння, Аксіння! Гэта ты? Што ты зрабіла з сабой! Дык во як патушыла сваё сэрцо! Чаму-ж ты маучала, чаму толькі раз прагаманілася, што палае яно у цябе? Жонка мая мілая! Чаго дала волю сэрцу свайму? Ці не казау табе, што не адступлюся ад цябе нікол!

Панас. Яна любіла цябе, больш чым магла кабрацъ у сябе. Не падобна яна была да нашых баб. Іншая якаясь душа яе. Царство ёй нябеснае і астауленне грахоу!

Зьмітрок. Жонка мая, жонка мая! Во як! Мысьліу вярнуцца у вёску к ціхаму жыццю! Я так змарыуся там у той барацьбе, у чужых краёх... А бачу, і тут вайна, яшчэ горшая! Там рваліся гранаты, тут рвуцца сэрцы людзкія. Там вораг пускау удушша, і тут сьцелецца кругом атрута, атрута злобы, ненавісьці, неуразумення! Там палілі з гармат, тут палюць сернікамі. І тая самая вада, што сьлёзамі заліваець вагонь, залівае вочы родных людзей! Ты сьпіш, сьпіш, мая жонка! Дык я раздую табе цяпло у коміну, каб сагрэліся твае ногі і рукі! Я запалю гэту хату, калі не сагрэець цябе! Там, на тым канцы тлеліся кніжкі, тлелалася навука. Хай-жа запаліцца і з гэтага канца! Што тут? Бярвенне адно! Ці жыць мне у гэтай хаце без цябе? Спалю яе!

Панас. Стой, сынок! Адыйдзіся! Ці ты ня Зьмітрок? Ці ты забыу ад гора свае словы? Ці ня бачыш, як глядзяць на цябе твае браты-мужыкі? Можа выпаузе, як вуж той, Цыганок, і будзе пахваляцца, пабачыушы слабасьць тваю. Сынку мой! Горо тваё вялікае, але і ты не маленькі, а дужы душой!

Зьмітрок. Не, я ужо ня дужы...

ЗЬЯВА 9-ая.

Галіна. Дзьмітры! Што тут, Дзьмітры? Мне казалі... Я кінула тату там... Агонь сьціхнуся, селяне працуюць добра, як ты заказау... Дзе яна? Ці прауда гэта?

Зьмітрок. Во яна! Во, гэта і ёсьць прауда жыцця!

Галіна. Божа-ж мой!

Панас. Нашыя шляхі яшчэ не закарчаваліся, не забалодзіліся. Пойдзем у мір. Ад вёскі к вёсцы, ад хаткі к хатцы ісходзім па краю нашаму і будзем казаць пра сваё і чужое горо. Людзі пачуюць, што кажам мы ад сэрца крывавага, і праз тое, можа дадуць веру слову і прасвятлеюць душой.

Галіна. Так, дзеду! Дзьмітры, хадзі сюды, дайце рукі. Во як! Крапчэй возьмемся, і ніякае зямное няшчасьце на зламіць нашых сіл, нашай веры у сьвяты ідэал жыццёвай прауды. Яна будзе жыць у нашай душы, як будзе жыць памяць аб нашай Аксінні. І прасіяець гэта прауда хоць праз векавякоу!

Зьмітрок. Ачнууся я... Дык зноу гэтай сьцежкай, што прыйшоу сюды, пайду з вамі?

Панас. З намі сынок! Во, бач, які посах добры у мяне!

Зьмітрок. А у цябе Галіна, ёсьць посах ды лапці?

Галіна. Будуць і у мяне лапці, а зносяцца, босай будзе лепш хадзіць па пясочку нашаму.

ЗЬЯВА 10-ая.

Вядуць **Цыганка.**

Усе. Забіць яго, забіць!

Зьмітрок. Ня трэба! Помста? Помста ня можа ікупіць злога дзела, а дабро ад яе так сама ня узойдзе, бо дабро усходзіць, калі ціха на душы... Аксіння мая! Яна застанецца тут адна, у дамавіне пачыць, а мы пойдзем к людзям, можа яшчэ сустрэнем такога Цыганка, дык распутаем і яго... А калі зморымся, вернемся сюды, у нашу вёску, і пачыйма з ёй радком на магілках... Прауда, Галіна?

Галіна. Прауда, Дзьмітры!

Цыганок. (Кідаючыся к Зьмітраку). Не, забійце мяне, бо цяжка мне жыць!..

**Заслона.**

КАНЕЦ.



**Ян Карафіят.**

# Аб тым, як адзін хлопец апавядау казку ды й ня скончыу яе.

**(Казка)**

Стары жук апавядаў сваім жучанятам:

— Адзін хлопец ішоў са школы, другі ішоў па траву, трэці ішоў у лес па грыбы, а чацьверты нікуды ня йшоў, Ен сукаў тату кноты і пайшоў толькі прабегціся.

Зышліся яны каля самай цагельні тагды, як пачалася бура і лінуў дождж, як з ведра. Мусілі схавацца у цагельню. Яна была парожная. Быў там толькі адзін заяц, ды й таго яны спудзілі. Яго кажух мусіў ткі добра змокнуць, але заяц лепш хацеў ісьці на дождж, чымся застацца з такімі хлопцамі пад адной страхой.

Дождж доўга не пераставаў і сукач прамовіў:

— Я вам нешта раскажу.

— Кажы, але толькі праўду.

— А ужо-ж, праўду. Было тое тагды, як зайцы выбіраліся у чужы край. Сабралося іх больш, чым саранчы.

— Што ты гаворыш! Ды гэта-ж немагчыма!

— Чаму немагчыма? Усюды усё было укрыто аднымі зайцамі, сунуліся яны ўпярод, якрака. Ды што там рака?—як вялізнае моро. Сабакі іх баяліся і хаваліся. а як адзін ускочыў між іх, дык прапаў.

— Але што ты гаворыш! Сабака прапаў між зайцамі?!

— А чаму-ж бы і не? Заячча паводка пацягнула яго і ён, хоцькі-ня-хоцькі, мусіў бегчы з імі. Што можа зрабіць адзін сабака, калі зайцаў больш, як саранчы? Спачатку сабака бег па-сабаччаму, але зайцы безупынна скакалі яму на хіб. Што-ж сабака тагды зрабіў? Пачаў скакаць і сам, як заяц.

— Але што ты нам апавядаеш? Ды гэта-ж зусім няпраўда.

— Пачакайце, дык яшчэ ня тое пачуеце. Прыблуталася да тых зайцеў каза. Спачатку яна сама па зайцох скакала і хапала іх на рогі, але ўрэшці мусіла ісьці з імі. Што здолае зрабіць каза рагатая, калі зайцаў у сто тысячаў раз больш, чым у яе валасін на целе! Спачатку яна бегла па-казінаму, але зайцы усё скакалі ёй на хіб. Што яна тагды зрабіла? Пачала скакаць з імі па-заяччаму.

— Ужо-ж скажа! Ніколі каза ня будзе скакаць так, як заяц.

— Чаму ня будзе? Як прыдзецца казе скрутна, дык будзе рабіць чаго і зроду не рабіла. Аднак-жа пачакайце, што далей пачуеце. Не адсюль, не адтуль зьявіўся перад зайцамі леў. Не спадабалося яму, што яны выбіраюцца. Ен зароў так, як толькі раве разьюшаны леў, што аж усё птаство жаханулося і сьпяваць кінуло. Потым ускочыў паміж зайцаў і стаў іх разрываць цэлымі дзесяткамі ды нават сотнямі і яшчэ больш. Але усё падходзілі новыя і новыя хвалі зайцаў. Леў нарэшці так стаміўся, што ужо ня мог нічога зрабіць. Зайцы яго пацяглі за сабой, і ён мусіў ісьці за імі.

— Не, вось гэта ужо мана. Леў ніколі ня дасца, каб зайцы яго вялі.

— О, як-бы то і ня даўся! Кароль можа толькі тагды караць, як зайцы хочуць быць паслухнянымі. Але як леў адзін, а зайцоў мільёны, і яны на нішто не зважаюць, нічога ня чуюць і толькі хочуць ісьці далей, то німа на сьвеці такога льва, каб яго зайцы не павялі, як авечку. Яшчэ спачатку, дык бег па-львінаму, але зайцы усё скакалі ды скакалі яму на хіб. Што-ж ён меў рабіць? Пачаў і сам скакаць, як заяц.

— Але хто-б то слухаў такое! Гэта ужо саусім мана, —сказаў той хлопец, што ішоў з школы, а за ім і той, што ішоў па траву, і абодва выбеглі з цагельні, бо дождж перастаў іці, і сонцо зноў засьвяціло. У цагельні застаўся сукач і той, што ішоў па грыбы.

— Ці тое ішчэ будзе доўга?

— О, ды я-ж толькі што пачаў.

— Ну, дык я не магу даслухаць гэтаго да канчатку, бо пакуль даслухаю, дык усе грыбы вызьбіраюць у лесе.

Застаўшыся адзін, сукач так і не дaказаў усей казкі да канчатку. Дзеля таго і мы павінны пакінуць яе не даказаную.

Жучаняты слухалі, і казка ім спадабалася. але не спадабалося тое, што яна ня скончана.

— Татачка! Усё-ж ткі яны маглі-б пачакаць, покуль ён скончыць казку.

— А ўжо-ж. Але той, што ішоў з школы, меў кавалачак хлеба і ужо прагаладаўся, а двое тых мусілі ісьці за сваімі справамі.

— Але-ж шкода! Так мы і ня ведаем, як гэта скончылося.

— Я мысьлю, што той сукач і сам ня ведаў. Людзі часта пачнуць што-небудзь і ня умеюць скончыць.

— Але-ж, татачка, хто небудзь такі-ж знаў, як яно скончылося. Чаго тыя зайцы выбіраліся? Ды куды выбіраліся?

— Ну, ў казках то ня усё тлумачыцца. Кожны мусіць сам дагадацца.

Пераклаў з чэскае мовы **Сымон Рак.**



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». **Рэдактар Я. Лёсік.** Друкарня Я. А. Грыблята.